Цана 25 гр.

№ 1 Вільня, 25 Лістапада 1933 г. Год I

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускае Нацыянальна-Соцыялістычнае думкі

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Кальварыйская 16—2 (Wilno, Kalwaryjska 16—2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„НОВЫ ШЛЯХ“ выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр.
Цана абвестак паводле ўмовы.

## АД РЭДАКЦЫІ

Наступіў час, калі частка беларускага грамадзянства, ідэолёгія каторага ня можа ўмясьціцца ў рамкі існуючых беларускіх палітычных партыяў—павінна забраць голас.

Надзвычайнага ў гэтым нічога няма. Нашае грамадзкае жыцьцё, у якіх-бы цяжкіх абставінах не разьвівалася,—усьцяж ідзе наперад.

Адначасна з тым разьвіваюцца і мацнеюць пэўныя ідэі, каторыя пашыраюцца ў народзе і каторыя адпавядаюць абставінам жыцьця.

Мыліцца той, хто лічыць, што беларуская грамадзкая думка аграньчываецца тымі афіцыяльна—прызнанымі двумя галоўнымі кірункамі, якія атрымалі ў нас як быццам усе грамадзкія правы. Маем на ўвазе камуністычную ідэолёгію і хрысьціянска-дэмократычную —гэтыя дзьве запраўдныя сілы, якія змагаюцца на нашых землях.

Пра грамадаўскую ідэолёгію мы не ўспамінаем, бо самі грамадаўцы распыліліся: большая іх частка перайшла да камуністаў і навет выехала у Саветы, а некаторыя адзінкі апынуўшыся ў „полёнофіліі“ сваё ідэолёгічнае ўбожаства стараюцца прыкрыць нейкім туманным радыкалізмам і ківаньнем у бок „правага крыла“ Грамады, якога фактычна ня было.

Той кірунак, да якога мы належым і каторы акрасьляем як нацыянальна-соцыялістычны, павінен знайсьці шырокае распаўсюджаньне сярод беларускага грамадзянства і выкрысталізавацца ў сваім тэорэтычным угрунтаваньні.

У мэтах пашырэньня гэтай ідэолёгіі група асобаў, яе падзяляючая, пастанавіла прыступіць да папулярызацыі і прапаганды сваіх ідэяў пры дапамозе друкаванага слова.

Напачатку наш ворган, высьвятляючы аснаўныя праграмовыя пытаньні, будзе выходзіць час ад часу, у меру матэрыяльных магчымасьцяў, але адначасна група ініціятараў прыме ўсе захады, каб прыступіць да рэгулярнага яго выдаваньня.

Мы разьлічаем на шырокае падтрыманьне з боку тае часткі грамадзянства, каторая спачувае нацыянальна-соцыялістычнай ідэолёгіі і каторая будзе лічыць „Новы Шлях“ сваею газэтаю.

Мы добра ведаем як цяжка прыступаць да гэтай справы, асабліва цяпер у эпоху глыбокага эканамічнага крызізу.

Але мы верым у тое, што беларускае грамадзянства нам спачуваючае адгукнецца на наш заклік.

Выпускаючы ў сьвет першы нумар „Новага Шляху“ мы творым адначасна фонд на выданьне рэгулярнай часопісі.

Усіх, хто цікавіцца гэтаю справаю, просім зьвяртацца ў нашую рэдакцыю.

# ГАЛОЎНЫЯ ВЕХІ

Пры цяжкіх абставінах грамадзка-палітычнага жыцьця паўстае нашая група, якая мае мэту пралажыць новы шлях да нацыянальна-палітычнага і социяльна-эканамічнага вызваленьня Беларускага народу і паставіць на гэтым шляху галоўныя вехі.

Ідэолёгічны разбрад, агульны недавер да ўсіх і да кожнага паасобку, сыстэматычная і ўсеразбураючая праца розных цёмных сілаў, дзеючых на нашых землях—усё гэта разам узятае стварае запраўды вельмі цяжкія абставіны для чэснай грамадзкай і палітычнай дзейнасьці.

Толькі глыбокая вера ў тое, што ідэі намі вызнаваныя знойдуць спачуцьцё сярод шырокіх колаў беларускага грамадзянства—дае нам пэўнасьць у пасьпешным выкананьні свайго заданьня, якое будзе, між іншым, палягаць і на тым, што свае думкі па цэламу раду социяльна-палітычных і грамадзкіх пытаньняў мы пастараемся прывясьці ў сыстэму, каторая ў будучыні пазволіла-б пабудаваць стройную палітычную праграму.

Кожная група, выступаючая на грамадзкі фронт, павінна мець зусім выразную і ясна сфармуляваную ідэолёгію, каторая зьяўляецца найлепшаю зброяю ў палітычнай барацьбе.

Гэтакую зброю мае і нашая група, сябры каторай аб,ядналіся на грунце нацыянальна социялістычнай, народніцкай ідэолёгіі.

Выступленьне нашае, як прыхільнікаў такой ідэолёгіі, накладае абавязак у першым-жа нумары сваёй часопісі даць хаця-бы канспэктыўны яе пагляд.

Перадусім, мы залічаем сябе да социялістаў.

Але гэта ня значыць, што мы сьлепа і бяскрытычна пераймаем усе ўстарэўшыя марксоўскія формулы, якія збанкруталі ў жыцьці.

Будучы социялістамі мы зьяўляемся прыхільнікамі ператварэньня арганізаваных на капіталістычных асновах вытворчасьці і абмену ў грамадзкія формы і прызнаём неабходным скасаваньне разам з буйнаю прыватнаю ўласнасьцю падзел грамадзянства на клясы і ператварэньня клясавага грамадзянства ў адзіную бесклясавую працоўную сямью.

Мы знаходзім адзіны выхад з таго глыбокага крызісу, якому не прадбачыцца канца і таго сумнага стану, у якім апынуліся працоўныя—у каранной рэканструкцыі на социялістычных асновах усяго буржуазна-капіталістычнага ладу.

Бяручы пад увагу социяльна-эканамічныя асаблівасьці нашага краю, як тыпова земляробскага, мы лічым патрэбным зьвернуць вялікую ўвагу на сялянскую гаспадарку, якая вымагае эканамічнай і тэхнічнай перабудовы, у выніку чаго пануючая форма гаспадараваньня павінна быць абапёртаю на сельска-гаспадарчай коопэрацыі, паступова ператвараючайся ў больш дасканальныя формы.

Мы лічым коопэрацыю, адпаведна дасаваную да вясковай гаспадаркі, за адзіны мэтад яе рэканструкцыі, у выніку каторай паасобныя сельска-гаспадарчыя галіны павінны падлегаць убуйненьню і тэхнічнаму ўдасканаленьню, павялічваючы адначасна сваю выдайнасьць.

Адначасна мы зьяўляемся праціўнікамі прымусой коллектывізацыі, якая праводзіцца ў Саветах, дзе ўсё сялянства ператварылася ў аб'ект жорсткай эксплёатацыі з боку камуністычнай улады, аб'ект пазбаўлены ўсякай ініцыятывы і зацікаўленьня да вынікаў сваёй працы, дзякуючы чаму ўсё насельніцтва некалісь багатай краіны перажывае нэндзу.

На вёсцы павінны запанаваць у выніку плянова га застасаваньня коопэрацыі новыя грамадзкія формы гаспадаркі і працы і ўстанавіцца лад цывілізаваных коопэратараў, які гэтым самым і будзе мець социялістычны характар.

Толькі тады вясковае насельніцтва пазбудзецца нэндзы, цемры і бяспраўя, у якіх яно знаходзіцца да сёньняшняга дня. Мы прызнаём, што будучы социяльна-эканамічны лад нашых земляў не павінен быць накінены звонкі ў парадку застасаваньня нейкай унівэрсальнай тэорыі (марксоўскі социялізм і камунізм), а мусіць быць апёрты на лёкальных асаблівасьцях нашых земляў і мець нацыяльны беларускі характар.

Залічаючы сябе да прыхільнікаў социялізму нацыянальнага—мы тым самым прызнаем, што як беларусы будзем імкнуцца да перабудовы социяльна-эканамічнага і грамадзкага жыцьця на социялістычных асновах, бяручы ў першую чаргу пад увагу інтэрэсы беларускага народу, які павінен быць запраўдным гаспадаром на сваёй зямлі.

У сучасную хвіліну, баронячы беларускія інтэрэсы, свае адносіны да іншых народаў, засяляючых нашыя землі, мы будзем устанаўляць у залежнасьці ад тае ролі, (палітычнай і эканамічнай) якую выконвае той ці іншы народ у адносінах да беларусаў. Гэтым самым мы будзем змагацца з закусамі ўсіх, хто пасягае на нашыя палітычныя, эканамічныя і культурныя правы.

Будучы прыхільнікамі нацыянальнага социялізму, мы адрозьніваем сябе ад усіх социалістаў, палажыўшых у аснову свайго сьветапагляду марксоўскую тэорыю пра гістарычную неабходнасьць гегемоніі пролетарыяту ў справе перабудовы сучаснага грамадзкага ладу на социялістычны.

Мы ўважаем, што ўсе працоўныя беларусы—сяляне, работнікі, рэмесьнікі і інтэлігенцыя, якім будучы социяльна эканамічны лад прынясе збаўленьне ад нэндзы і няпэўнасьці ў заўтрашнім дні—усе ў роўнай меры павінны аб'яднацца ў сваім імкненьні да палепшаньня долі і гэта створыць падставы да супольнага фронту ў барацьбе за лепшую будучыню.

У гэтай барацьбе толькі адзіны палітыч-

ны фронт усіх працоўных—запраўды народны—можа прывясьці да пажаданай мэты.

У гэтым супольным фронце няма мейсца для гегемоніі паасобных сябраў адзінай працоўнай сямьі, няма тым самым мейсца і для дыктатуры гарадзкога пролетарыяту над сялянствам і іншымі клясамі, як да таго імкнуцца камуністы і што фактычна яны зьдзейсьнілі ў Саветах.

Соцыяльна—творчыя здольнасьці ў кірунку рэканструкцыі грамадзкага ладу на соцыялістычных падставах маюць ня толькі адна кляса пролетарыяту, але ўсе працоўныя і эксплёатаваныя наагул, словам усе тыя, хто пакрыўджаны сучасным соцыяльна-эканамічным ладам і хто гэтую крыўду здольны ясна сабе ўсьведаміць.

Ніякіх надзеяў мы не пакладаем на сучасную сыстэму парлямэнтарызму з яе „свабодамі", каторая выявіла яўнае банкроцтва і зусім страціла давер і павагу сярод шырокіх народных масаў.

У большасьці выпадкаў парлямэнтарная сыстэма праўленьня зьяўляецца толькі шырмай, за каторай укрываецца дыктатура паасобных выпадковых групаў, ня маючых, звычайна, ніякіх гістарычных пэрспэктываў, пазбаўленых творча—рэканструкцыйнай ініцыятывы і консэрватыўных, дзякуючы сваёй прыналежнасьці да буржуазна-капіталістычных вярхоў сучаснага грамадзянства.

У тых выпадках, дзе парлямэнтарная форма дзее больш—менш нармальна, яна і там выявіла поўную няздольнасьць да перабудовы соцыяльна—эканамічнага ладу згодна з вымогамі сучаснай хвіліны.

Дзеля гэтай прычыны мы зьяўляемся прыхільнікамі працоўнай рэспублікі, улады каторай былі-б створаны з прадстаўнікоў арганізаванага працоўнага народу. Толькі арганізацыі працоўных, дзеючы праз сваіх прадстаўнікоў былі-б здольнымі да адказнае ролі кіраўніцтва дзяржаўным і соцыяльна-эканамічным жыцьцём грамадзянства і адпаведнай яго перабудовы.

Для зьдзейсьненьня соцыялістычнага ладу, які мы ўважаем нашаю мэтаю, аднэй з галаўнейшых умоваў зьяўляецца нароўні з матэрыяльна-тэхнічнаю да таго падгатоўкаю--соцыялістычнае ўсьведамленьне працоўных масаў і грамадзкае іх узгадаваньне, бо толькі гэтыя масы і павінны быць будаўнічымі новага грамадзкага ладу. У сьведамым утручэньні арганізаваных грамадзкіх сілаў у стыхіўны працэс разьвіцьця мы бачым адзін з галоўных фактараў прагрэсу.

Асягненьне накрэсьленай намі мэты магчыма толькі тады, калі значная большасьць працоўнага народу зразумее канешную патрэбу перабудовы сучаснага ладу, пазбыўшыся адначасна з тым нездаровых інстыктаў камунізму—падзелу.

Пры сучасных абставінах сьвядомыя і арганізаваныя кадры працоўных павінны імкнуцца да пашырэньня сваіх уплываў ва ўсіх галінах дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця, паслугоўваючыся адпаведнымі ўстановамі і арганізацыямі—праф.—саюзы, коопэрацыя самаўрады, парлямэнт.

Вялікую ролю ў гэтай справе адыгрывае добра арганізаваная палітычная партыя працоўных, маючая выразна нацыянальны характар.

Дзеля гэтага мы будзем імкнуцца да стварэньня на нашых землях Беларускай соцыялістычнай і нацыянальнай па духу партыі, бяручы пад увагу што ў нас няма беларускай соцыялістычнай партыі наагул, што дзеючыя на нашых землях польскія соцыялістычныя партыі зьяўляюцца фактычна палянізатарскімі чыннікамі.

Напасьледак, мы лічым патрэбным разам з іншымі нацыянальна-беларускімі групамі змагацца ў супольным нацыянальным фронце за свабоднае будаўніцтва палітычнага і грамадзкага жыцьця Беларускага народу і ягонае адраджэньне. У будучыні мы бачым абʼяднаны і незалежны Беларускі народ, які ў свабоднай фэдэрацыі з іншымі народаямі створыць разам з імі новыя падставы грамадзкага ладу.

Прыблізна такімі зьяўляюцца галоўныя нашыя вехі.

Сваім абавязкам мы лічым, кіруючыся гэтымі вехамі, сфармуляваць зразумелую і выразную праграму, якая-б дала магчымасьць нашай нацыянальна-соцыялістычнай групе ператварыцца ў хуткай будучыні ў палітычную партыю.

# Нацыянальны соцыялізм

Тая соцыялістычная тэорыя, якая носіць назоў марксызму і якая паложана ў аснову існуючых камуністычных і соцыялістычных партыяў, была распрацована яшчэ ў першай палове 19 стагодзьдзя К. Марксам і Фр. Энгельсам—жыдамі з паходжаньня.

Гэтыя тэорэтыкі, пражыўшыя амаль усё сваё жыцьцё ў Англіі, далі падрабязную аналізу соцыяльна-эканамічных адносінаў, панаваўшых тады ў капіталістычных дзяржавах, у першай чарзе ў прамысловай Англіі, дзе 80 прац. насельніцтва належала да клясы фабрычна-завадзкога пролетарыяту.

Маркс і Энгельс пераважна на аснове ангельскіх досьледаў распрацавалі схэму разьвіцьця капіталістычных формаў гаспадараваньня і выявілі тую роль, якую адыгрывае капітал у грамадзкім і эканамічным жыцьці народаў.

Аналізуючы ангельскія абставіны жыцьця і маючы на ўвазе капіталістычныя краіны наагул, яны прышлі да наступных вывадаў:

Прамысловы капітал захоплівае адну гаспадарчую галіну за другою і паступова пад-

парадкуе сваім уплывам усё эканамічнае жыцьцё народаў.

Пашыраецца канцэнтрацыя капіталаў, у выніку каторай дробныя прадпрыемствы гінуць, дробныя ўласьнікі пераходзяць на становішча пралетараў, а буйнейшыя багацеюць, скупляючы ў сваіх руках усё большую эканамічную моц. Колькасьць пралетараў павялічваецца на рахунак г. зв. прамежутачных слаёў, каторыя пралетарызуючыся пераходзяць у армію байцоў за новы, соцыялістычны лад, бо адначасна з пралетарызацыяй заўважваецца іхняе грамадзкае ўсьведамленьне ў соцыялістычным напрамку.

Гэтакім чынам, па думцы Маркса і Энгельса, якая чырвонай ніткай праходзіць ва ўсіх іхніх творах, развіцьцё капіталізму і накапленьне багацтваў у руках капіталістаў з аднаго боку, а з другога — павялічэньне арміі пролетарыяту і беспрацоўных (гэтыя апошнія выступаюць у ролі арміі рэзэрвовай патрэбнай капіталістам падчас добрай коньюнктуры)—нямінуча вядзе да соцыялістычнай рэвалюцыі.

Тады спролетарызаваная большасьць павінна захапіць усю ўладу ў свае рукі, адкінуўшы ад кіраўніцтва эканамічным і палітычным жыцьцём пануючыя клясы. Наступае эпоха дыктатуры пролетарскай большасьці над буржуазнай меншасьцю.

Маркс і Энгельс верылі, што такая рэвалюцыя магчыма толькі ў прамысловых краінах і не спадзяваліся, што іхняя тэорыя ў першую чаргу будзе прытарнавана ў аграрнай Расеі.

Марксоўская тэорыя, атрымаўшая назоў навуковага соцыялізму, выклікала вялікае ўражаньне сярод тых колаў інтэлігенцыі, каторыя імкнуліся да перабудовы жыцьця на соцыялістычных асновах. Марксызмам захопліваліся дзякуючы лёгічнай стройнасьці яговых разважаньняў і многім здавалася, што знойдзены ўрэшце зусім пэўныя і да таго „навуковыя“ асновы, на каторых можна апірацца ў сваей рэвалюцыйнай дзейнасьці.

Знайшліся такія прыхільнікі марксызму і ў калішняй Расеі, пачаўшыя бачыць ратунак у разьвіцьці капіталізму, які, на іх думку, павінен быў прывесьці да перабудовы расейскіх паў—фэодальных адносінаў у буржуазна-капіталістычныя і да павялічэньня кадраў фабрычна-завадзкога пролетарыяту.

На гэты пролетарыят, узмоцнены як колькасна так і якасна, і пакладаліся ўсе надзеі расейскіх марксістаў. Сялянскія-ж масы, рэмесьнікі і іншыя працоўныя клясы (апрача фабрычных работнікаў і парабкаў) залічаліся імі да дробна-буржуазнага элемэнту, каторы павінен быў „пераварыцца“ ў фабрычна-завадзкім катле — гэта значыць спролетарызавацца і толькі тады набыць здольнасьці да соцыялістычнага ўсьведамленьня.

Марксісты (большэвікі і меншэвікі) лічылі, напрыклад, што ў працэсе ўпрамыславаньне Расеі большая частка сялянства павінна зьнікнуць, як кляса ўласьніцкая і ўліцца ў пролетарскую грамаду, ператварыўшыся тымсамым з рэакцыйнай сілы ў рэвалюцыйную.

На гэтым, між іншым, пытаньні завязаліся галоўныя спрэчкі народніцка соцыялістычнага кірунку з Марксістамі, лічыўшага іхнія разважаньні ў галіне аграрнай памылковымі.

Соцыялісты-народнікі (эс-эры, народныя соцыялісты і іншыя) даводзілі, што тэорыя Маркса не распрацавана дакладна ў той частцы, каторая датычыць аграрных адносінаў і што гэтая тэорыя ня можа быць прытасаваная ў аграрнай Расеі.

Па думцы народнікаў, працоўнае сялянства ў ніякім выпадку да буржуазных клясаў, а гэтым самым да сілаў рэакцыйных, залічыць немагчыма і што гэтыя клясы ў сваей масе ніколі не спролетарызуюцца, г. зн. не пяройдуць на становішча парабкаў і фабрычных работнікаў, бо законы разьвіцьця, выведзеныя Марксам датычна капіталістычных краін,—ня могуць мець застасаваньне ў земляробскіх краінах. Народнікі даводзілі, што наскольні Расея зьяўляецца тыповаю аграрнаю краінаю, дык тут няма месца для тэорыі Маркса, і дзеля гэтага прыходзіцца шукаць самастойных шляхоў для зьдзейсьненьня соцыялістычнага ладу. Урэшце і сам соцыялізм у расейскіх вясковых абставінах павінен мець свой уласны характар і зьмест, прытасаваны да асаблівасьцяў краю.

Адначасна з тым соцыялісты-народнікі выступалі супроць дыктатуры пролетарыяту, як клясы пераважна гарадзкіх работнікаў, дамагаючыся каб кіраўніцтва дзяржавою перайшло ў рукі ўсіх працоўных, а тым самым і ў рукі арганізованага сялянства.

Гэткім чынам мы бачым, што ў апазыцыі народнікаў супроць марксізму (лічыўшага сваю унівэрсальную схэму адзіна-правільнай) выяўляюцца выразныя пачаткі нацыянальнага соцыялізму. Гэткі нацыянальны элемэнт у тагачасных народнікаў выяўляўся між іншым і ў тым што яны лічыліся ў справе зьдзейсьненьня соцыялістычнай тэорыі ня толькі з эканамічнымі, але і з нацыянальнымі асаблівасьцямі тае краіны і таго народу, дзе гэты новы лад меўся быць уведзены.

Адносна Расеі яны выразна казалі, што нацыянальнаю яе асаблівасьцю зьяўляецца пераважна ў Маскоўшчыне. г. зв. „обшчына“ і што толькі праз яе на вёсцы можа быць зьдзейснены соцыялістычны лад.

Кастрычнікавая рэвалюцыя палажыла (прынамсь у Расеі) канец спрэчкам паміж марксістамі і народнікамі, але затое ў нашы часы выявілася новае соцыялістычнае цячэньне, каторае ў справе перабудовы грамадзянства кладзе вялікі націск на нацыянальныя асаблівасьці народных масаў і іхнюю нацыянальную сьведамасьць.

Узмацненьне і пашырэньне нацыянальна-соцыялістычнай ідэолёгіі паступае ў Эўропе шпаркімі крокамі наперад і тлумачыцца, га-

лоўным чынам, поўным банкруцтвам марксоўскага міжнароднага соцыялізму ў Савецкай Расеі, дзе ў аграрнай галіне замест цывілізаванага ладу ўстабілізаваўся фараонаўскі прыгон.

Сумная савецкая рэчаістасьць прычынілася і да таго, што соцыялістычныя партыі, аб'яднаныя ў Інтэрнацыянале, перажываюць глыбокі крызыс, сьведкамі каторага мы зьяўляемся ў сучасную хвіліну.

Тыя з соцыялістаў, каторыя жадаюць дабра свайму народу, прыходзяць да перакананьня, што само паняцьце соцыялізму ў застасаваньні, напрыклад, да аграрных краінаў патрабуе грунтоўнага перагляду.

Тут павінен быць запраўды лад цывілізаваных коопэратараў і зусім непатрэб аю, а навет шкодчаю для народнай гаспадаркі была-б тая камуна — ураўнілаўка, якая творыцца ў Саветах.

Зусім непатрэбна, напрыклад, таксама пазбаўляць селяніна прыватнай уласнасьці на такія гаспадарчыя аб'екты, карыстаньне каторымі на прыватна-ўласьніцкіх асновах прыносіць куды балей карысьці, як для яго самога так і для ўсяго грамадзянства.

Апрача гаспадарчага боку гэтай справы ёсьць і нацыянальны, каторы павінен цікавіць кожны народ, не жадаючы сваей пагібелі, або падпарадкаваньне іншым народам, хаця-бы і ў абставінах соцыялістычнага ладу.

Усякі новы і больш дасканальны ў нашым краі лад сваімі дабрадзействамі павінен у першу чаргу абдарыць наш народ, і гэтыя карысьці для нашага народу павінны быць найвялікшымі.

Мы павінны дбаць аб тое, каб дадатнія якасьці народу разьвіваліся пры ўсякіх абставінах і нават пры зьмене грамадзкага ладу.

Мы павінны ўсьцяж змагацца, каб іншыя народы не ўзялі кіраўнічага верху над нашым народам і каб не дайсьці да таго, што наглядаецца ў „соцыялістычных" Саветах, дзе нацыянальныя меншасьці (жыды, палякі, грузіны і іншыя) захапілі такую ўладу ў дзяржаве, якая па праву ім зусім не належыцца.

Ніхто ня можа забясьпечыць нас ад таго, што і ў будучых абставінах жыцьця народы больш арганізаваныя і нацыянальна сьведамыя не захопяць кіраўніцтва над народамі у гэтым кірунку слабейшымі.

Дзеля гэтага побач з соцыяальным усьвядамленьнем свайго народу трэба дбаць пра нацыянальнае яго ўзгадаваньне, зьвяртаючы на гэта найвялікшую ўвагу і памятаючы, якія ад'емныя для яго насьледкі здараюцца ў выпадку слабай нацыянальнай сьведамасьці ў параўнаньні з іншымі народамі.

Вось тут паміж намі і соцыялістамі-інтэрнацыяналістамі і камуністамі заходзіць таксама настолькі вялікая розьніца, што ставіць нас у варожыя лагеры.

Інтэрнацыянальна-соцыялістычныя тэорыі ў сучасную хвіліну мы лічым ня толькі шкоднымі, асабліва для народаў са слабаю нацыянальнаю сьведамасьцю, але і прадчаснымі, а ўсякія надзеі на зьдзейсьненьнн соцыялістычнага ладу па аднаму Марксоўскаму шаблёну—зьяўляюцца ўтапічнымі.

Толькі тады, калі паасобныя народы пачнуць устанаўляць соцыялістычны лад у нацыянальных межах і калі яны „ператравяць" яго — толькі тады магчыма пачаць гутарку пра зрэалізаваньне соцыялістычных суадносінаў у сусьветным маштабе, без шкоды для слабых нацыянальна народаў.

Праз нацыянальны соцыялізм, каторы адпаведна лёкальным абставінам можа прымаць розныя віды і асаблівасьці ў паасобных краёх, праз нацыянальнае адраджэньне свайго народу і гарманійнае развіцьцё ўсіх ягоных духовых вартасьцяў — мы будзем імкнуцца да соцыялізму ў сусьветным маштабе — вось тая кіруючая думка, каторай мы павінны прытрымоўвацца ў сваёй грамадзкай і палітычнай працы.

А. Булат.

# НОВЫ ШЛЯХ

З духовай кволасьці, з вяковае няволі,
З прыгону страшнага і з мляўкага быцьця —
Устане ўсёткі нам дух моцнай нашай волі,
Каб захапіць, вясьці да дзейнага жыцьця.

Адзене ў вопратку бадзёрасьці вясёлай,
Ўвальле амбіцыю ў народны ціхі дух;
Пакору вырве нам—адзнаку волі кволай
І уступлівасьці разгоніць ўвесь задух.

І ўзварухнецца люд, паднімецца на ногі,
І пойдзе волатам да дзейнага жыцьця,
І працярэбіць ўсе паросшыя дарогі;
Ачысьціць сьцежкі ўсе ад брyду і сьмяцьця.

І з песьняй вольнаю і з воляю няўхільнай
На новы ўзыйдзе ён прачышчаны свой шлях.
Змаганьнем, працаю, бадзёрым духам сільным
Ён незалежнасьці падніме горда сьцяг.

Казлоўшчык

# Гістарычная неабходнасьць

Няма цяпер ніякай патрэбы даводзіць, што ўся зямля павінна адыйсьці працоўнаму сялянству і няма, здаецца, такіх партыяў (акрамя абшарніцкіх), каторыя стаялі-б гэтаму на перашкодзе.

Пераход усей зямлі, здатнай да ўжыткаваньня, у рукі тых, хто яе патрабуе — зьяўляецца гістарычнаю неабходнасьцю і ніякая сіла на сьвеце гэтага пераходу ня ўстрымае. Раней ці пазьней, пры дапамозе выкупу ці то шляхам канфіскаты маёнткаў,—але зямля мусіць апынуцца ў руках дробных земляробаў. Мы жывём, фактычна, у эпоху ліквідацыі абшарніцтва, якая пачалася па заканчэньні сусьветнай вайны, прыймаючы ў паасобных краёх розныя формы.

Працэс гэты ў некаторых дзяржавах, як напрыклад у Польшчы, яшчэ ня спыніўся, але мы пераконаны, што і тут ён дойдзе да канца, у выніку чаго коштам земляўласьніцкіх абшараў павялічыцца колькасьць дробных гаспадарак сялянскага тыпу.

Той, хто мае здольнасьці ўглядацца ў будучыню павінен прыйсьці да пераконаньня, што самы факт падзелу ўсіх запасаў зямлі які знаходзіцца ў руках абшарнікаў, дзяржавы і іншых,,як-бы справядліва ён ня быў праведзены--вырашыць усей аграрнай праблемы ня зможа.

Гэтая праблема куды складнейшая, чымся яна можа паказацца на першы пагляд.

Перадзел зямлі здольны заспакоіць зямельны голад у даную хвіліну,—і то навет сумліўна, каб гэтае заспакаеньне было поўным.

Калі мы возьмем статыстычныя дадзеныя, якія датычаць зямельнай плошчы Зах. Беларусі, дык апынімся тут перад гэткім фактам. Увесь запас, які можа быць выкарыстаны для распадзелу яе паміж беззямельнымі і малазямельнымі, аблічаецца на $2^1/_2$ мільёны гэктараў.

Колькасьць гаспадарак маючых менш 2 гэкт. даходзіць у нас да 77.000 і маючых ад 2 да 5 гэктараў—да 171.400—разам мы маем больш як 248.000 такіх гаспадарак, каторыя патрабуюць прырэзкі.

Калі мы падзелім увесь зямельны запас аблічаны ў 2 з пал. міл. гэкт. паміж аднымі толькі малазямельнымі, то кожны з іх атрымае гаспадарку больш меньш здольную да жыцьця.

Але пры гэтакім спосабе вырашэньня пытаньня не хапіла-б зямлі для беззямельных і парабкаў, дык узяўшы пад увагу і гэтыя катэгорыі працоўных, прырэзкі прышлося-б зьменшыць, а тым самым зьменшылася-б і колькасьць гэктараў прыпадаючых на кожную гаспадарку.

Адным словам, з гэтага нескладнога абрахунку мы бачым, што шляхам перадзелу зямлі мы толькі тымчасова маглі-б заспакоіць зямельны голад.

Для нас зусім зразумелаю зьяўляецца тая акалічнасьць, што зямельная рэформа не павінна агранічыцца аднэй толькі парцэляцыяю абшарніцкіх маёнткаў.

Адначасна з такою парцэляцыяю трэба будзе шырока праводзіць мэліорацыю і нагул прыспасабляць да земляробскіх мэтаў зямельныя абшары пакульшто няздатныя да ўжытку.

Але й гэтага будзе мала.

У вельмі хуткім часе сялянскія масы адчуюць дзякуючы прыросту насельніцтва такі самы зямельны голад, як наглядаецца і цяпер.

Насоўваецца канешная патрэба тэхнічнай рэконструкцыі ўсяе сельскае гаспадаркі шляхам падвядзеньня пад яе ўдасканаленай тэхнічнай базы, аб чым ад даўжэйшага часу ўпарта пішацца ў фаховай прэсе.

На наш пагляд уселякія спробы тэхнічнай рэконструкцыі сялянскай гаспадаркі ў больш шырокім маштабе як-бы, карыснымі яны не выглядалі, пры існуючых умовах арганізацыі працы на вёсцы, зусім немагчымы.

Розныя тэхнічныя вынаходы, якія можна было-б застасаваць у земляробстве — застаюцца зусім без ужытку і ў нас няма ніякай надзеі, каб яны пры існуючым стане рэчаў павялічылі выдайнасьць працы і глебы дробных землеўласьнікаў.

Селянін застаецца засуджаным на паўгалоднае, годнае палітаваньня жыцьцё да тае пары—пакуль не пройдзе каранная перабудова эканамічных адносінаў, пануючых у вясковай гаспадарцы.

Словам, у аграрнай галіне тэхнічная рэконструкцыя немагчыма без соцыяльно-эканамічнай перабудовы.

На чым-жа павінна палягаць гэтая апошняя?

Перадусім, паасобныя галіны сельскай гаспадаркі павінны імкнуцца да ўбуйненьня, бо толькі буйнейшыя гаспадарчыя арганізмы

ў большасьці выпадкаў зьяўляюцца больш выдайнымі, дзякуючы рацыянальнай сваёй арганізацыі ў пераўнаньні з дробнымі.

У справе ўбуйненьня паасобных сельскагаспадарчых галін (жывёлагадоўля, паляводства і г. д.), каторае палягала-б на аб'еднаньні гэтых гаспадарчых адзінак (зусім ізаляваных у сучасную хвіліну)—найвялікшую роль павінна адыграць **пляновае і сыстэматычнае іх коопэраваньне**.

Толькі пры такім спосабе паасобныя дробныя гаспадаркі, коопэруючы галіну за галінаю,—ператвараліся-б у здатныя да жыцьця і здольныя да прагрэсу адзінкі.

Але мы хочам у гэтым кірунку ісьці далей. Мы лічымся з тым, што пры сучасных абставінах жыцьця, калі ўся паўната дзяржаўнай улады знаходзіцца ў руках людзей неразумеючых істотнага значэньня коопэрацыі і навет воража да яе адносючыхся, дзякуючы сваёй клясавай прыналежнасьці да прамыслова-гандлёвых сфэраў—коопэратыўнае будаўніцтва будзе разьвівацца вельмі павольна і амаль ніякай социяльна-творчай ролі не адыграе. Каб коопэрацыю ператварыць у сілу здольную да правядзеньня фактычнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы—патрэбна адпаведная перабудова кіраўнічага дзяржаўнага апарату.

Да гэтай пары коопэрацыя, акрамя ўсяго іншага, можа быць толькі грамадзкаю школаю для найбольш актыўных адзінак з пасярод нашага грамадзянства.

Аднак гэтая акалічнасьць зусім не даводзіць пра бязмэтнасьць коопэратыўнага будаўніцтва пры сучасных абставінах жыцьця. Мы хочам толькі падкрэсьліць, што ў будучыні коопэрацыя адыграе вялікую роль, як адзіны мэтад рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і дасьць магчымасьці падвесьці пад яе тэхнічную базу, каторай яна пазбаўлена пры сучасных індывідуалістычных спосабах гаспадараваньня. Рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, пра каторую ідзе мова, павінна быць праведзенаю ў такі спосаб, каб паасобныя гаспадары не страцілі матэрыяльнага зацікаўленьня да вынікаў сваей працы.

Толькі пры гэтакіх умовах гаспадарка будзе разьвівацца павялічваючы сваю выдайнасьць.

Калі-ж стаць на шлях тварэньня такіх формаў гаспадараваньня, пры каторых гэтае зацікаўленьне зьнікае, што мы наглядаем, напрыклад у Савецкіх калгасах, то могуць стварыцца абставіны, калі сельскае гаспадарства ў цэлым пачне падаць.

Масавае і пляновае распаўсюджаньне коопэратыўных формаў у выніку сваім павінна прывесьці да павышэньня культурнага роўню сялянства да агульнага дабрабыту.

Зразумела, што падобная рэформа, будучы найвялікшаю ў нашу эпоху, павінна плянова праводзіцца цэлымі дзесяцігодзьдзямі падчас каторых само сялянства будзе пераўзгадоўвацца ў коопэратыўным напрамку.

Асаблівую ўвагу ў гэтых адносінах трэба зьвярнуць на моладзь, з радоў каторай вытвараюцца кадры сьведамых коллектывістаў—коопэратараў. Каранная перабудова сельскай гаспадаркі, паміма адпаведных палітычных абставінаў, вымагае часу, а галоўнае матэрыяльных сродкаў і кадраў добра падгатаваных спэцыялістаў.

У працягу дзесяцігодзьдзяў трэба укладаць у сельскую гаспадарку вялікія капіталы і толькі тады мы будзем мець права вымагаць адпаведных вынікаў.

Тое, што мы наглядаем у Саветах, дзе ў працягу некалькіх гадоў, без адпаведных матэрыяльных сродкаў і пры наяўнасьці ніскага культурнага роўню сялянства камуністычная ўлада задумала ўвесьці соцыялістычны лад—зьяўляецца нічым іншым як зьдзекам над сельскаю гаспадаркаю. Пры камуністычных тэмпах рэканструкцыі і пры іхніх мэтодах мог вытварыцца толькі прыгон і тое запраўднае ліхалецьце, якое наглядаецца ў савецкай вёсцы.

Савецкае „соцыялістычнае“ будаўніцтва зьяўляецца добрым прыкладам таго, як ня трэба будаваць соцыялізм у аграрнай галіне іншага значэньня гэты прыклад мець для нас ня можа.

Аграрная проблема зьяўляецца больш завілаю чымся яна можа паказацца як камуністам, так і людзям, каторыя бачаць яе вырашэньне выключна ў распарцэліваньні зямельных абшараў.

Гэтае апошняе можа быць толькі ўступам да запраўднага яе вырашэньня, каторае палягае на каранной рэканструкцыі ўсяго сыстэму гаспадараваньня, абапёртага ў сучасную хвіліну на крайнім індывідуалізме і нізкім тэхнічным роўні. Гэтага вымагае сучасная гістарычная хвіліна і той няўстрыманы прырост сельскага насельніцтва, які наглядаецца ў аграрных краінах. Людзі ўсьцяж прыбываюць, а колькасьць зямлі застаецца

абмяжаванаю.

Вось гэтая акалічнась і зьвяўляецца галоўным мотарам да буйных рэформаў у аграрнай галіне.

**Д. Пінчук**

**Ад рэдакцыі.** Справу, парушаную ў гэтым артыкуле мы будзем абгаварваць у кожным нумары сваей часопісі, бяручы пад увагу тыпова аграрны характар нашага краю.

# Prawa na aświetu

Šmat pra jakija prawy hаworać i pišuć ludzi z „radykalnymi" i „kamunizujučymi" üchiłami, ale ab adnym z hałaŭniejšych prawoŭ, ad katoraha zaležyć budučynia našaha narodu, świedama starajucca zamaŭčać.

Hutarka idzie pra roŭnae dla ŭsich prawa na aświetu.

Krytyčna adnosiučysia da sučasnaha „demokratyzmu" my źjaŭlajemsia, adnak praciŭnikami i sawieckaha systemu, dzie z prawa na nawuku karystajucca tolki asoby „praletarskaha pachodžańnia" i kamunisty i dzie dostup da aświety za „hrachi" prodkaŭ začynieny dla ŭsich inšych i niawiedama ¦nawat da katoraha pakaleńnia. Niemahčyma adnak pahadzicca i z takim stanam rečaŭ, jaki wytwaryŭsia ŭ nas, kali z aświety karystajucca tolki bahatyja klasy. Jak wiedama, biełaruski narod wyklučna sialanski, materyjalny stan katoraha z kožnym hodam paharšajecca i niama ničoha dziŭnaha, što siarednija i wyšejšyja školy zrabilisia dla jaho zusim niedastupnymi.

Padychodziučy da hetaj sprawy z nacyjanalnaha punktu hledžańnia, prychodzicca ustanawić toj biassumliŭny fakt, što hetyja škoły isnujuć na našych ziemlach pierawažna dla palakoŭ i žydoŭ pry hetym žydy majuć u ich značnuju pracentowuju pierawahu nad palakami.

Kali my woźmiem statystyčnyja dadzienyja dyk pierakanajemsia ŭ wielmi charakternym i žudasnym dla nas stanie rečaŭ.

Hetak naprykład, u 1931 h. u Polšču było ŭsiaho 48 tysiač studentaŭ wyšejšych školaŭ, z katorych naličwałasia:

| | |
|---|---|
| rymska-katolikoŭ | 34.303 |
| žydoŭ | 8.923 |
| ewanhelikaŭ | 1.194 |
| prawasłaŭrych | 1.049 |

Na žal, my nia majem dakładnych dadzienych, adnosna nacyjanalnaha składu studenskaj masy, ale nawat z taho, što nami padadziena widać — jaki źnikomy pracent mejsc u wyšejšych školach prypadaje na prawasłaŭnych kudy ŭwachodziać ukraincy, rasiejcy, biełarusy rumyny i inš. Možna ličyć, što na dwa z pałowinaju miljonaŭ biełarusaŭ my majem usiaho nia bolš pary sotniaŭ studentaŭ, u toj čas jak napr. žydy na swaje 4 milony majuć ich až 8923.

Roźnica pamiž hetymi cyframi nastolki wialikaja, što sama kidajecca ŭ wočy...

Najhoršym dla nas źjaŭlajecca jašče toje, što z kožnym hodam kolkaść maturystaŭ biełarusoŭ źmianšajecca i možna być peŭnym, što dojdzie da nula, kali abstawiny našaha palityčnaha i hramadzkaha žyccia nia źmieniacca.

Hodna padziwu, miž inšym, što sami palaki, budučy panami pałažeńnia ŭ swajoj ułasnaj dziaržawie,—dajuć stasunkowa mienšy pracent intelihencyi, čymsia žydy.

Za apošnija hody pracantowa žydoŭskaja intelihencyja ŭ 10 razoŭ pierawysiła polskuju, wyjawiŭšy jaŭnuju tendencyju, da dalejšaha pawyšeńnia.

Na naš pahlad hetkaje źjawišča zasłuhoŭwaje na ŭwahu z boku tych šowinistyčnych kołaŭ polskaha hramadzianstwa, katoryja bačać śmiarotnuju niebiaśpieku dla polskaj „racji stanu" ŭ isnawańni nekalkich žabrackaha typu biełaruskich škołaŭ i pary sotniaŭ studentaŭ biełarusaŭ.

Niebiaśpieka na hetuju „racyju" nadychodzić z inšaha boku, ale pierad joju jak strus chawajuć hoławu.. Wytwaryŭšysia stan rečaŭ zrabiŭsia dla ŭsich jasnym i zrazumiełym.

Biełarusy stracili prawa na aświetu, i što najhałaŭnejšaje, musiać straciė usiakuju nadzieju, što jaje zdabuduć pry isnawańni takich hramadzka-palityčnych suadnosinaŭ, jakija wytwarylisia na našych ziemlach. My źjaŭlajemsia prychilnikami taje dumki, što ŭ hetaj sprawie patrebny zapraŭdy radykalnyja reformy, katoryja pawinny nadyjści ŭ suwiazi z histaryčna-niaŭniknionaju karannoju pierabudowaju našaha žyćcia na nowych padstawach.

Tolki tady dźwiery siarednich i wyšejšych škołaŭ buduć šyroka adčynieny dla wiaskowaj biełaruskaj moładzi. U školy pawinny pastupać najbolš zdolnyja, a nie najbolš zamožnyja, jak heta nahladajecca ciapier.

Kali pawieści hutarku pra zastasawańnie pryncypu demakratyzmu, to nawat u sučasnuju chwilinu nia škodnym było-b pačać jaho sa škołaŭ.

Roŭnaje prawa na nawuku pawinny mieć usie narody zasialajučyja našy ziemli i kab nia było pierаładawańnia ŭ škołach jakoj niebudź adnej nacyjanalnaści—dostup tudy musić być zabiaśpiečany kožnamu narodu praparcyjanalna jaho kolkaści ŭ krai. Nam zdajecca, što ad takoj reformy biełarusy nie prajhrali-b...

Hetaha my budziem damahacca i damahańnie swajo ličym zapraŭdy demokratyčnym, abapiortym na widawočnaj sprawiadliwaści.

My nia majem prawa zamoŭčwać tuju kryŭdu, katoraja robicca našamu narodu i katoraja świedama ad jaho ŭkrywajecca.

Рэдактар і выдавец Уладыслаў Казлоўскі.

Złożono czcionkami W. Znamierowskiego. Druk. K. Lewkowicza — Wilno, ul. Ś-to Michalska 14.

